Ян Павел II і будучыня чалавецтва 2
Юбілей святарскіх пасвячэнняў 3
Як не згубіць моладзь у Касцёле? 5
Лісты чатачоў 5



Гродна
№13 (542),
28 чэрвеня 2020

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# ПАМОЛІШСЯ – І АДРАЗУ ПАЛЁГКА НА ДУШЫ





РАЗ НА ГОД У ЛЯСНЫМ ГУШЧАРЫ КАЛЯ ВЁСКІ ДУБОК, ШТО Ў АСТРАВЕЦКІМ РАЁНЕ, РАЗДАЮЦЦА ГУКІ АКАРДЭОНА, ПАД ЯКІЯ ЛЬЕЦЦА НАБОЖНЫ РЭЛІГІЙНЫ СПЕЎ КАЛЯ ДЗВЮХ СОЦЕНЬ ВЕРНІКАЎ. ТАКІМ ЧЫНАМ РАСПАЧЫНАЕЦЦА ФЭСТ У ГОНАР МАЦІ БОЖАЙ НЯСТОМНАЙ ДАПАМОГІ (АБО БАЛЕСНАЙ), ПАД ІМЕМ ЯКОЙ СЯРОД ВЕКАВЫХ ДУБОЎ УЗВЫШАЕЦЦА КАПЛІЦА.

● працяг на с. 4

“Марыя дае нам здароўе, з’яўляецца нашым здароўем”. Папа Францішак

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### XIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Мц 10, 37–42**

Езус сказаў сваім Апосталам: “Хто любіць бацьку ці маці больш, чым Мяне, не варты Мяне. І хто любіць сына ці дачку больш, чым Мяне, не варты Мяне. І хто не бярэ крыжа свайго і не ідзе за Мною, той не варты Мяне. Хто знайшоў жыццё сваё, страціць яго. А хто страціў жыццё сваё дзеля Мяне, знойдзе яго. Хто прымае вас, Мяне прымае. А хто прымае Мяне, прымае таго, хто паслаў Мяне. Хто прымае прарока ў імя прарока, узнагароду прарока атрымае. І хто прымае справядлівага ў імя справядлівага, узнагароду справядлівага атрымае. І хто напоіць аднаго з малых гэтых толькі кубкам халоднай вады ў імя вучня, сапраўды кажу вам, не страціць узнагароды сваёй”.

## АДКІДВАЦЬ ТОЕ, ШТО НЯВОЛІЦЬ

Мы рэдка свядома выбіраем тое, што нічога не варта. Часцей ідзём на повадзе знешняга выгляду і лічым, што абралі правільна, хаця пазней упэўніваемся, што гэта не так. Езус хоча вызваліць нас з сеткі ўяўных каштоўнасцей і навучыць жыць такім чынам, каб дабіраціца да праўды пра людзей, рэчы і справы.

Хрыстос паказвае нам, што, хоць і паўтараем іншым, як моцна іх любім, фактычна ж канцэнтруемся на тым, што маем ад гэтай любові. Калі нас палохае велізарнасць пакут у свеце, Езус адкрывае іх значэнне, таму што не хоча, каб мы ўсё жыццё ўцякалі ад іх, але каб маглі вырасці дзякуючы ім.

Збаўца пастаянна нагадвае пра вечнае жыццё, каб набліжэнне канца нашай зямной вандроўкі не было адзначана паралізуючым страхам, пустэчай і адчуваннем бессэнсоўнасці. Таму Езус увесь час напаўняе нас сваім словам і дадае патрэбнай мужнасці.

Мы ўсе дзеці Божыя, таму павінны адрозніваць любоў ад яе “прывідаў”, бачыць у чалавеку бліжняга і адкідаць тое, што нас няволіць. Але перш за ўсё – не быць сляпымі, калі Бог праходзіць праз наша жыццё, каб суцешыць, вылечыць і ўмацаваць.

**Што для мяне з’яўляецца найбольшай вартасцю?**

**Ці здольны я бачыць Бога ва ўсім, што мяне акружае?**

### XIV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Мц 11, 25–30**

У той час, адказваючы, Езус сказаў: “Праслаўляю Цябе, Ойча, Пан неба і зямлі, што Ты схаваў гэта ад мудрых і разумных і адкрыў гэта дзецям. Так, Ойча, бо такая была Твая добрая воля. Усё перададзена Мне Айцом Маім, і ніхто не ведае Сына апроч Айца; і ніхто не ведае Айца, апроч Сына і таго, каму Сын захоча адкрыць. Прыйдзіце да Мяне, усе спрацаваныя і абцяжараныя, і Я супакою вас. Вазьміце ярмо Маё на сябе і навучыцеся ад Мяне, бо Я ціхі і пакорны сэрцам, і знойдзеце спакой для душ вашых. Бо ярмо Маё любае і цяжар Мой лёгкі”.

## КРЫНІЦА НАШАГА ЎМАЦАВАННЯ

Нам вельмі часта не хапае сіл. Увесь час дзесьці бегаем, працуем, займаемся тысячай спраў, клапоцімся пра сям’ю, дом, але ўсё роўна яшчэ шмат чаго застаецца зрабіць. Штодзённыя абавязкі становяцца невыносным крыжам, мы падаем пад іх цяжарам і гаворым, што больш не маем сіл.

Езус ведае, як выглядае наша жыццё. Ведае нашы слабасці і страхі, цяжкасці і нагрузкі, таму чакае са сваёй ласкай усіх: святых і грэшнікаў, багатых і бедных, здаровых і хворых. Ён з’яўляецца крыніцай умацавання, падбадзёрвання, суцяшэння тых, хто патрабуе падтрымкі.

Бог верны сваім абяцанням. Каб пакаштаваць Божае жыццё і адчуць Божую моц, трэба толькі далучыцца да Хрыста і безагаворачна прыняць Яго вучэнне. Трэба ўступіць у школу Езуса і вучыцца Яго ладу жыцця, Яго словам і справам, Яго мяккасці і пакорлівасці. “Вазьміце ярмо Маё на сябе і навучыцеся ад Мяне, бо Я ціхі і пакорны сэрцам”. Толькі тады спакой Хрыста паселіцца ў сэрцы чалавека.

Дарога да збаўлення – гэта дарога крыжа. Аднак крыж не павінен быць прычынай смутку і цярпення, нагодай адмовіцца ад шчасця. Крыж можа быць радасцю і надзеяй для тых, хто ўглядаецца ў Езуса і хоча ісці па шляху, які Ён пазначыў. Збаўца паказвае кожнаму з нас, што крыж вядзе да ўваскрасення і вечнага жыцця.

**Ці ахвотна нясу крыж, дадзены мне Панам?**

**Як выглядае маё штодзённае жыццё?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Гатова дапамагаць

***Найсвяцейшая Панна Марыя ўшаноўваецца ў шматлікіх выявах. Кожная з іх адрозніваецца, кожная распавядае пра іншыя прыкметы Маці Божай. Але Яна заўсёды застаецца той жа Маці Езуса і нашай Маці.***

Мабыць, любы чалавек, які лічыць сябе прыхільнікам Маці Божай, хоць бы раз у жыцці задаваўся пытаннем: чаму ў нас так шмат выяў Марыі, калі Маці Божая адна? А адказ просты. Па аналагічнай прычыне мы робім шмат фатаграфій любімай асобы: некаторыя здымкі лепш выражаюць пэўныя рысы характару альбо адлюстроўваюць нейкі аспект яе прыгажосці, а часам увекавечваюць абставіны незвычайнай сустрэчы. Не можам “развітацца” з такімі выявамі. Таксама і марыйныя абразы спачатку нагадваюць і набліжаюць нам духоўную прысутнасць Марыі. Любім Яе, таму не дзіўна, што хочам адчуваць Яе блізкасць.

Аднак некаторыя абразы ўшаноўваюцца вернікамі асаблівым чынам. Іх вешаюць у дамах, кладуць у партманет з дакументамі альбо ў аўтамабіль. І ўсё з-за асабістай чуласці, альбо з-за рыс марыйнай духоўнасці, якія тыя выражаюць, альбо з-за выключнага моманту сустрэчы з Маці Божай, які адзначыў ласкай чалавечую гісторыю.

Часта хрысціяне даюць назвы сакральным абразам у залежнасці ад месца іх культу (напр. Маці Божая Вастрабрамская), ад іх духоўнага характару (напр. Маці Божая Ласкавая) альбо ад ласкаў, аб якіх прасілі ў патрэбах (напр. Маці Божая, Развязваючая Вузлы). Часам назва абраза вынікала з глыбокага духоўнага паслання, заключанага ў сімволіці іконы, так, як у абразе Нястомнай Дапамогі.

Марыя дапамагае нам ісці дарогай веры і быць паслухмянымі волі Айца. Як Маці, хоча лепшага для сваіх дзяцей. Прагне, каб мы выкарысталі тварэнне Яе Сына Езуса Хрыста. Таму ў абразе Нястомнай Дапамогі ўказвае на Збаўцу, нібы кажучы: “Ён лякарства ад вашых праблем! Толькі Ён можа выратаваць вас!”.

Аднак Марыя не забывае таксама пра нашы штодзённыя зямныя справы. Але Яна не выконвае кожную просьбу. Заўсёды выслухоўвае, але не заўсёды адорвае тым, чаго просім. Маці Божая падобная да любой мудрай маці, якая не дае сваім дзецям усё – дзеля іх карысці.

Марыя робіць усё, каб мы зразумелі, што мэтай жыцця з’яўляецца збаўленне, а не толькі лепшае здароўе, самаадчуванне ці вырашэнне нейкай справы. Часам допускае цярпенне для дабра чалавека. Калі ў Фаціме Луцыя папрасіла Марыю вылечыць хворых, Багародзіца адказала: “Некаторых Я вылечу, а некаторых не. Няхай яны пераменяцца, няхай просяць прабачэння грахоў”. Перадусім, Маці Божая клапоціцца пра збаўленне чалавека.

**Дарагія Чытачы!**

**Марыя – Маці Нястомнай Дапамогі. Яна заўсёды гатова нам дапамагчы, хоць часам такім спосабам, які спярша можа падацца незразумелым. Таму не спадзяемся на свае заслугі ані на свае добрыя ўчынкі, але толькі на бязмежныя заслугі Пана Езуса і на Яе неспасціжную мацярынскую любоў!**

# Ян Павел II
## і будучыня чалавецтва




> ***Чалавек застаецца сам для сябе істотай незразумелай. Яго жыццё пазбаўлена сэнсу, калі яму не адкрыецца Любоў, калі ён не сустрэнецца з Любоўю, калі не дакранецца да яе і нейкім чынам не зробіць яе сваёй, калі не знойдзе ў ёй жывога ўдзелу.***

На самым пачатку свайго пантыфікату папа Ян Павел II засяроджваецца над будучыняй чалавецтва, над праблемамі, з якімі яно сутыкаецца, і акрэслівае дарогу, па якой варта ісці. Сапраўдны шлях чалавека разглядае як пілігрымку праз жыццё да Айца, якім ён быў створаны.

У навучанні папы Яна Паўла II заўсёды гучалі словы: “годнасць”, “вартасць”, “праўда”, “свабода”. Яны былі скіраваны ў адрас кожнага чалавека, апісвалі яго адметныя якасці, рысы. Рысы, якія чалавек мае апрыёры, як прыналежны да Бога. “Якую ж каштоўнасць павінен мець чалавек у вачах Творцы, калі заслужыў такога магутнага Адкупіцеля, калі Бог «аддаў Сына свайго Адзінароднага», каб ён, чалавек, «не загінуў, але меў жыццё вечнае» (параўн. Ян 3, 16). Менавіта гэтае глыбокае здзіўленне вартасцю і годнасцю чалавека называецца Евангеллем, альбо Добрай Навінай. Называецца таксама хрысціянствам. Прадстаўляе місію Касцёла ў свеце...”, – такія разважанні чытаем у першай энцыкліцы



Святога Айца “Redemptor Hominis” (“Адкупіцель чалавека”). Узгаданы дакумент быў абвешчаны ў сакавіку 1979 года, праз некалькі месяцаў пасля абрання Караля Вайтылы на пасад св. Пятра.

Будучыню кожнага чалавека і ўсяго свету Пантыфік адносіць да постаці Езуса Хрыста, якога называе “цэнтрам сусвету і гісторыі”: “Да Яго звяртаюцца мае думкі і маё сэрца ў гэты важны час гісторыі, у якім знаходзіцца Касцёл і вялікая сям’я сучаснага чалавецтва”.

Св. Ян Павел II звяртае ўвагу на тое, што зразумець сябе “да канца”, а не толькі праз “непасрэдныя, частковыя, часам павярхоўныя і нават фальшывыя крытэрыі і меры ўласнай сутнасці” магчыма толькі пры набліжэнні чалавека да Збаўцы, пры набліжэнні разам “са сваім неспакоем, няўпэўненасцю, а таксама слабасцю і грэшнасцю, са сваім жыццём і смерцю”. Езус бачыць людзей такімі, якія яны ёсць. Такімі Ён нас чакае і прымае.

У энцыкліцы Святы Айцец падкрэслівае таксама ролю Касцёла на шляху Хрыста да чалавека і чалавека да Хрыста. І пад гэтым агульным паняццем “чалавек” Пантыфік разумее канкрэтную асобу, кожнага ў свеце з яго “непаўторнай рэчаіснасцю быту і дзейнасці, свядомасцю і воляй, сумленнем і сэрцам”. Разумее “чалавека, які – кожны асобна (паколькі з’яўляецца менавіта «асобай») – мае сваю гісторыю жыцця і, найперш, уласную «гісторыю душы»”. Заданнем, місіяй Касцёла называе кіраванне позірку гэтага чалавека, а таксама “свядомасці і досведу ўсяго чалавецтва ў бок таямніцы Хрыста”.

Без Хрыста цяжка быць сабой, будаваць адносіны з бліжнім і ўсім светам. “Я – дарога, і праўда, і жыццё” (Ян 14, 6). У “Redemptor Hominis” Пантыфік спасылаецца на гэтыя словы з Евангелля: “Езус Хрыстус з’яўляецца асноўным шляхам Касцёла. Ён сам наша дарога «ў дом Айца» (параўн. Ян 14, 2). Дарога да кожнай асобы. На гэтым шляху, які вядзе ад Хрыста да чалавека, на гэтым шляху, дзе Хрыстос «яднаецца з кожным чалавекам», Касцёл ніхто не можа спыніць”.

> ***Сутыкнуўшыся з задачамі, якія ўзнікаюць на шляхах Касцёла [...], усведамляючы незаменнасць усіх гэтых шляхоў і адначасова цяжкасцей, якія на іх нагрувашчваюцца, тым больш адчуваем патрэбу ў глыбокіх адносінах з Хрыстом. Моцна гучаць у нас словы, якія Ён сказаў: «Без Мяне нічога не можаце зрабіць» (Ян 15, 5).***

*Кацярына Паўлоўская*

# БЫЦЬ ПРЫЛАДАЙ У РУКАХ БОГА




***Мы не часта сустракаем на сваім шляху людзей з вялікім сэрцам, адданасцю і пакорай. Павінна вельмі пашанцаваць, каб паглядзець такой асобе ў вочы, каб, сустрэўшыся з ёю, спазнаць аўтэнтычнасць гэтых цнотаў і каштоўнасцей.***

***Многія вернікі з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне асабіста знаёмы з а. Юзафам Гензам CSsR – чалавекам самаадданага служэння, выпраменьваючым радасць, адкрытым для іншых. Святар прываблівае пачуццём супакою, разважнасці, мудрасці.***

### ШЛЯХ ДА СВЯТАРСТВА

Паважаны юбіляр паходзіць з Тарноўскай дыяцэзіі (Польшча). Нарадзіўся недалёка ад Тухава, дзе знаходзяцца марыйны санктуарый і духоўная семінарыя айцоў рэдэмптарыстаў.

Хлопец выхоўваўся ў шматдзетнай сям'і. Акрамя яго, бацькі гадавалі яшчэ трох сыноў і пяць дачок. Маці пераважна займалася домам і гаспадаркай, а бацька быў пекарам.

***– Каб трапіць у касцёл, трэба было пераадолець 3 кіламетры, але нас гэтыя кавалак дарогі не палохаў,*** – успамінае а. Юзаф. ***– Цэлай грамадой, разам з дзецьмі з суседніх дамоў мы ішлі на св. Імшу, на Ружанец, рараты. Я прыслужваў міністрантам. Часам гэта былі даволі складаныя часы як для мяне, так і для маіх бацькоў і пробашча, таму што парой я мог нарабіць клопату.***

Калі юнак скончыў школу, здаў экзамены і быў прыняты ў ліцэй, маці спытала яго, ці не хацеў бы вучыцца ў айцоў рэдэмптарыстаў. Бацька ж, хоць і быў веруючым і набожным чалавекам, меў крыху іншае меркаванне.

***– Паколькі я старэйшы сын у сям'і, тата бачыў маё жыццё інакш,*** – расказвае а. Юзаф. ***– Ён думаў, што я першым скончу навучанне, атрымаю прафесію і буду карысным для нашай вялікай сям'і. Але сталася так: я забраў дакументы з ліцэя і накіраваўся да айцоў рэдэмптарыстаў, дзе 4 гады вучыўся ў іх мужчынскай гімназіі з перспектывай у будучыні паступіць у семінарыю.***

Пасля некалькіх гадоў навучання юнак сапраўды паступіў у навіцыят. Праз год яго прызвалі ў армію, дзе служыў танкістам. Гэта быў час сутычкі паміж касцёлам і камуністычнымі ўладамі, таму пасля набору, калі салдатам прызначаліся асобныя функцыі ў падраздзяленні, камандзір палка спытаў навіцыянта, ці збіраецца ён пасля вярнуцца ў семінарыю. Пачуўшы станоўчы адказ, малады чалавек быў накіраваны ў роту лінейных.

***– Потым, між іншым, у мяне цікавіліся, асабліва пад канец службы, ці не хацеў бы вучыцца ў Акадэміі бранятанкавых войскаў у Познані. Але я падзякаваў і вярнуўся ў семінарыю. А ўжо ў 1970 годзе быў пасвечаны,*** – адзначае а. Юзаф. ***– Памятаю, што ў той дзень было вельмі сонечна і перад св. Імшой я хадзіў па алеях побач з семінарыяй і паўтараў словы падзякі біскупу, якія меўся сказаць на заканчэнне ўрачыстасці. Асабліва ўзгадваю просьбу маліцца за нас, новапрэзбітэраў, бо "гэты скарб мы носім у гліняных посудах", якія могуць разбіцца.***

### ЯМУ ТРЭБА ЎЗРАСТАЦЬ, А МНЕ СТАНАВІЦЦА МЕНШЫМ (ЯН 3, 30)

Гэтыя словы былі змешчаны на прымiцыйным абразку а. Юзафа, які на працягу ўсіх гадоў свайго служэння стараўся справіцца з пастаўленай мэтай. Адразу пасля семінарыі ён быў накіраваны ў Торунь, дзе займаўся катэхізацыяй моладзі. Потым вывучаў каталіцкую тэалогію ў Варшаве, а таксама праводзіў катэхезы для вучняў выпускных класаў і апекаваўся душпастырствам студэнтаў. Вярнуўшыся ў Тухаў, займаўся манаскай моладдзю спачатку як прэфект пастулата, а потым як настаўнік (магістр) навіцыята.

***– У семінарыі маёй задачай было, перш за ўсё, вядзенне лекцый,*** – успамінае юбіляр. ***– Шчыра кажучы, не меў вялікай ахвоты да гэтага, нават згадаў аб тым падчас размовы з правінцыялам. Аднойчы ўвечары ён пастукаўся ў мой пакой і спытаў, ці не хацеў бы паехаць у Беларусь. Я адказаў, што калі маю што там рабіць, чаму б і не? Таму быў накіраваны ў Гродна. Нясу тут паслугу ўжо 23 гады.***

Кажучы пра сваё першае ўражанне пасля прыезду ў горад над Нёманам, а. Юзаф падкрэслівае, што мясцовае парафіяльнае жыццё было, у асноўным, падобна на тое, якое бачыў у Польшчы, толькі ўмовы адрозніваліся: малюсенькія пакоі, усюды шумна, бо ў адным месцы была і кватэра, і будоўля, і катэхетычныя класы.

***– Тады пераканаўся, як шмат залежыць ад нашага стаўлення,*** – падкрэслівае суразмоўца. ***– Да гэтага часу я жыў у вялікіх супольнасцях, у манастыры, дзе ціха, спакойна, а цяпер у мяне былі зусім іншыя ўмовы. Калі тэлефанаваў альбо пісаў родным і сябрам, заўсёды жартаваў, што жыву нібы на Цэнтральным вакзале ў Варшаве, дзе ўвесь час рух, шум, гам. Раней, у Польшчы, калі хацеў нешта напісаць, нават гадзіннік мне перашкаджаў. І я хаваў яго ў шафу з бялізнай, каб не было чуваць. У той час як тут за адной сцяной нехта гучна смяяўся, за другой званіў тэлефон і інжынер вырашаў нейкія справы, а я спакойна сядзеў у пакоі і рабіў тое, што павінен быў. Проста прыняў новую рэчаіснасць, якой яна ёсць.***

А. Юзаф таксама адзначае, што з пачатку свайго служэння ў Беларусі заўважыў адну з характэрных рыс мясцовых католікаў. Яна выяўляецца ў простай, пачуццёвай, надзвычай эмацыянальнай рэлігійнасці і адносінах да святара, які часам быццам бы "з іншага свету". Пажылыя людзі, што многае перажылі, гатовыя стаць на калені перад ім ці пацалаваць руку. Ужо зусім іншы падыход у дзяцей і моладзі – для іх святар становіцца вельмі блізкім, становіцца сябрам.

***– Колькі маладых сэрцаў прайшло міма мяне са школьнымі сумкамі ў руцэ, з запалам, з жыццёвымі ідэаламі, рэалізуючы свой шлях у будучыню?*** – задумваецца а. Юзаф. ***– З моманту прыезду ў Гродна і па гэты дзень я займаюся катэхізацыяй і вельмі рады гэтаму, бо ажыццявілася тое, чаго хацеў непасрэдна пасля пасвячэння – працаваць з дзецьмі. Часта падчас катэхезы мы ўздымаем тэмы жыццёвага паклікання. Я тлумачу, што з рэлігійнага пункту гледжання ў кожнага ёсць свой шлях, прызначаны Богам, і трэба толькі распазнаць яго, аналізуючы ўласныя схільнасці, магчымасці, здольнасці. Трэба развіваць іх і тым самым не толькі ўзбагачацца, але і быць карыснымі для іншых. Гэта вельмі выразна падкрэсліваў св. Ян Павел II: тады, калі знаходзім сябе, мы становімся дарам для іншых. На жаль, часам людзі ў паўсядзённым жыцці зводзяць усё да таго, каб толькі мець, думаюць эгаістычна і забываюць, што мы становімся напоўненымі, калі адорваем іншых, адкрываемся ім. Гэтае дабро пазней вяртаецца да нас.***

Святар з задавальненнем адзначае, што пры выкананні сваіх душпастырскіх і манаскіх абавязкаў заўсёды адчувае радасць. Да выключных момантаў адносіць працу ў душпастырстве студэнтаў і клопат пра супольнасць Хатняга Касцёла.

***– Знаходзячыся ў Toруні, я апекаваўся некалькімі коламі гэтай супольнасці, а будучы ў Беларусі, шмат гадоў ездзіў у Польшчу праводзіць рэкалекцыі для сем'яў. Яны таксама часам прыязджалі ў Гродна, і ў нас былі сумесныя духоўныя сустрэчы. Гэта вельмі цікавы і глыбокі досвед: як сем'і, як свецкія людзі перажываюць штодзённасць, малітву і разуменне адносін з Касцёлам,*** – згадвае а. Юзаф. ***– Здараліся і дзівосныя моманты, калі дзеянне Бога праз мяне даходзіла да іншага чалавека, і ён знаходзіў свой шлях, разумеў свае жыццёвыя задачы. Часта перажываў гэта падчас рэкалекцый для сем'яў, у якіх звычайна ўдзельнічала каля 60-ці чалавек. Там існуе звычай у канцы сустрэчы дзяліцца самым важным, што выносіш з рэкалекцый. Я прамаўляў да ўсіх удзельнікаў аднолькава, але заўсёды здаралася, што нейкі мой сказ, думка была сказана быццам бы для аднаго канкрэтнага чалавека, які потым абавязкова перад усімі адзначаў: "Айцец казаў так, быццам ведаў мае перажыванні, мае праблемы. Дзякуй за тое, што я атрымаў адказы, якія доўга шукаў!". Гэта заўсёды ўражвала.***

А. Юзаф падкрэслівае, што юбілейны год, безумоўна, з'яўляецца часам ласкі, асаблівым этапам у жыцці святара, калі падводзяцца прамежкавыя вынікі паслугі. Святар глядзіць у будучыню з надзеяй, што з Божай дапамогай ён будзе працягваць служыць аддана і з любоўю да людзей, па прыкладзе Езуса Хрыста, які зрабіў яго рыбаком чалавечых сэрцаў.

*Кінга Красіцкая*





*Падчас св. Імшы юбіляру дзякавалі за паслугу, а таксама жадалі сіл і Божай апекі на далейшыя гады служэння*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Езус – гэта мост, пантыфекс, памост паміж намі і Айцом. Езус паказвае Айцу свае раны, якія з'яўляюцца цаной нашага збаўлення. Майсей – гэта вобраз Езуса – заступніка, які моліцца за нас, просіць за нас.*

*Майсей пабуджае маліцца з такім жа запалам, што і Езус, каб заступаліся за свет, памяталі, што, нягледзячы на ўсе свае слабасці, ён усё роўна належыць Богу. Усе належаць Богу: закаранелыя грэшнікі, самыя дрэнныя людзі, найбольш карумпіраваныя кіраўнікі з'яўляюцца Божымі дзецьмі, і Езус адчувае гэта і просіць за ўсіх. А свет жыве і развіваецца дзякуючы бласлаўленню праведніка, дзякуючы набожнай малітве, якую святы, справядлівы, заступнік, святар, біскуп, папа, свецкі чалавек, кожны ахрышчаны пастаянна ўзносіць за людзей, у кожным месцы і ў кожны перыяд гісторыі.*

*Падумаем пра Майсея заступніка і калі ў нас з'явіцца жаданне кагосьці асудзіць, калі злуемся ўнутры. Раззлаванне робіць нам дабро, ёсць штосьці збаўчае ў гэтым, але асуджэнне не робіць дабра... Калі злуешся, што мусіш зрабіць? Ідзі, прасі за таго чалавека. Гэта нам вельмі дапаможа.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 17.06.2020*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*Штодзённа мы перажываем шмат цяжкасцей і клопатаў. Езус прапануе вырашэнне ўсіх нашых праблем праз любоў да бліжняга, што з'яўляецца знакам любові да Бога. А любоў да Бога – гэта жыццё паводле Яго закону, павага да кожнага чалавека, дыялог у імя дабра ўсяго грамадства.*

*Мы розныя, што натуральна, і таму маем розныя меркаванні адносна тых самых праблем і пытанняў. І ў сям'і ўсе розныя; але гэта адна сям'я, і ўсе клапоцяцца адно пра аднаго, пра супольнае дабро. Так і ў грамадстве: мы, перш за ўсё, павінны кіравацца агульным дабром грамадства, а не толькі прасоўваннем свайго іміджу.*

*Таму ў гэты складаны і нават неспакойны час нашай гісторыі, напярэдадні выбараў, усім палітычным і грамадскім сілам неабходна, у першую чаргу, думаць пра агульнае дабро грамадства і супольную будучыню, каб яна будавалася, перадусім, на ўзаемапавазе і любові да бліжняга, а складаныя пытанні вырашаліся шляхам узаемнага дыялогу.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай у катэдральным касцёле Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, 19.06.2020*




*◆ У межах Дыкастэрыі па служэнні інтэгральнаму развіццю чалавека створана спецыяльныя Камісія па надзвычайнай сітуацыі, выкліканай пандэміяй каранавіруса. Яна функцыянуе ў супрацоўніцтве з усімі структурамі Рымскай курыі і мясцовымі Касцёламі. Дзейнасць падтрымліваюць сусветныя інтэлектуальныя цэнтры, сярод якіх Джорджтаўнскі і Патсдамскі ўніверсітэты, Каталіцкі ўніверсітэт Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў Мілане (Італія), міжнародная арганізацыя “World Resources Institute”. Задача ватыканскай камісіі па COVID-19 – падрыхтаваць будучыню Касцёла пасля пандэміі.*

*◆ Святы Айцец Францішак заснаваў Фонд “Gesù Divino Lavoratore” (“Езус Боскі Работнік”), мэта якога палягае на падтрымцы людзей, якія адчуваюць сур’ёзныя фінансавыя цяжкасці ў выніку пандэміі (без стабільнай працы, тых, каму не аднавілі кантракты, хто працаваў пагадзінна ці праходзіў стажыроўку, а таксама хатніх работнікаў, дробных прадпрымальнікаў, самазанятых). Пачатковы капітал Фонда склаў 1 мільён еўра, якія ахвяраваў Папа. Між іншым, Пантыфік заклікаў вернікаў у духу салідарнасці прабачыць даўгі і спыніць судовыя цяжбы.*

*◆ Кіраўнік праекта па расшыфроўцы геному чалавека Фрэнсіс Колінз стаў лаўрэатам Тэмплтанаўскай прэміі за 2020 год. Прэмія ўручана навукоўцу за “спрыянне інтэграцыі веры і розуму”. На думку даследчыка, праз навуку можна “ацаніць веліч Божага стварэння”, што з’яўляецца своеасаблівай формай адарацыі. Тэмплтанаўская прэмія заснавана ў 1972 годзе. Яе лаўрэатамі становяцца вучоныя, філосафы, пісьменнікі, прадстаўнікі духавенства, грамадскія дзеячы, якія зрабілі значны ўнёсак у даследаванне духоўнай сферы жыцця і паспрыялі дыялогу паміж навукай і рэлігіяй.*

*◆ Лацінскі патрыярхат Іерусаліма прадае сваю маёмасць у Святой Зямлі: нерухомасць і тэрыторыі ў Іарданіі, а таксама ў Назарэце. Такі крок выкліканы катастрафічнай фінансавай сітуацыяй, і ў прыватнасці – беспрэцэдэнтнай запазычанасцю, якая ў апошні час перавысіла суму ў 100 мільёнаў даляраў. Пакупніком з’яўляецца арабскі бізнесмен, а Патрыярхат працягвае займаць 10 гектараў у родным горадзе Пана Езуса. Яны будуць служыць мясцовай хрысціянскай супольнасці.*

*◆ Прэзідэнт біскупскай канферэнцыі ЗША абп Хасэ Гомес выказаў заклапочанасць Касцёла з нагоды рашэння Вярхоўнага суда. Яно тычыцца таго, што закон аб супрацьдзеянні дыскрымінацыі 1964 года таксама павінен распаўсюджвацца на гомасексуалістаў і трансгендэраў. Ёсць асцярогі, што гэтае рашэнне будзе выкарыстана для знішчэння свабоды веравызнання і свабоды сумлення (напрыклад, каб прымусіць Касцёл удзяляць аднаполыя шлюбы, альбо вернікаў – да дзеянняў, якія супярэчаць іх поглядам).*

*vaticannews.va; ekai.pl; credo.pro*

# ПАМОЛІШСЯ – І АДРАЗУ ПАЛЁГКА НА ДУШЫ

● *працяг са с. 1*

## МАЛІТВА З НЕТРАЎ ЗЯМЛІ

“Лясная” святыня была пабудавана ў 1929 годзе мясцовымі вернікамі пад кіраўніцтвам кс. Рамуальда Дроніча, пробашча парафіі ў Жодзішках (да яе капліца





*Здымкі капліцы і абраза, датаваныя 1929 годам*

належыць і дагэтуль). Тутэйшы люд, які заўсёды меў моцны культ Багародзіцы (да Першай сусветнай вайны ў мястэчку дзейнічаў касцёл Маці Божай Балеснай), абраў месца для будучай капліцы ў лясным масіве на кургане, недалёка ад ракі Віліі, каб схаваць святыню ад магчымых напасцяў і самім мець гарантаваны прытулак для супольнай малітвы.

***“На ўрачыстасці асвячэння капліцы сабралася каля 6-ці тысяч чалавек,*** – распавядае кс. Павел Калеснік, які служыць у жодзішскім касцёле на працягу апошніх амаль 20-ці гадоў. – ***Гэта і зразумела. У той час вёскі былі больш заселеныя, парафіі шматлюдныя. Сёння тая ж вёска Дубок налічвае ўсяго 3 хаты”.***

Аднак, нягледзячы на гэта, каля дзвюх соцень чалавек штогод імкнуцца пакланіцца абразу Маці Божай Нястомнай Дапамогі, змешчанаму ў алтары капліцы. Вернікі прыбываюць не толькі з жодзішскага касцёла, але і з блізкіх парафій: Гервятаў, Астраўца, Солаў, Нястанішкаў і Міхалішкаў. Прыязджаюць і госці з суседняй Літвы, бо ў многіх там жывуць сваякі. У кожную першую нядзелю ліпеня яны стойка моляцца пад дажджом, які стаў ужо традыцыйным элементам фэсту, і ўдзельнічаюць у адмысловым набажэнстве – ідуць ад стацыі да стацыі, ушаноўваючы 7 журбот Найсвяцейшай Панны Марыі.

***“Мясцовая Кальварыя была пабудавана ў 1936 годзе. Пачынаецца яна на адлегласці 2,5 км праз лес ад капліцы і працягваецца каля 2 км,*** – адзначае кс. Павел. – ***Першая стацыя – каменная брама, уваход праз якую «адкрывае» ўрачыстую працэсію. Пасля ўздоўж берага Віліі спыняемся каля чарговых стацый: 4-ох крыжоў, невялікай капліцкі і грота, на якім змешчана фігура Маці Божай. З грота б’е крыніца. Людзі пасля набіраюць адтуль ваду, дарэчы, вельмі смачную. Калі ідзём у адзін бок – адгаворваем Ружанец, а на зваротным шляху – адмысловыя малітвы адносна кожнай са стацый”.***

Асаблівага хараства ўрачыстасці дадае тое, што яна праходзіць пры запаленых свечках – у капліцы няма электрычнасці. Тутэйшыя жанчыны ўпрыгожваюць святыню ўласнымі намаганнямі: шыюць рознакаляровыя сцяжкі з тканіны, робяць аздобы з паперы і дбаюць пра галоўны элемент мясцовага дэкору – дубовыя вянкі.

Фэст сярод лесу не адбываецца без традыцыйнай часткі парафіяльных адпустаў. На паляне і ўздоўж дарогі, што вядзе да святыні, размяшчаецца кірмаш рэлігійных рэчаў: абразы, ружанцы, фігуркі анёлаў і святых. Ёсць і звыклыя для фэсту слодычы – цукеркі-пеўнікі. ***“Здараецца, прывозяць і ўсталёўваюць апарат для вырабу салодкай ваты”,*** – дадае з усмешкай кс. Павел.

Сёлета, улічваючы складаную эпідэміялагічную сітуацыю ў краіне, фэст у Дубку адбудзецца ў крыху зменевай форме. Паводле слоў пробашча, св. Імша будзе традыцыйна цэлебравацца звонку святыні, дзе дастаткова месца для захавання дыстанцыі. Аднак не будзе праводзіцца працэсія на Кальварыю.

## У НЕПРЫКМЕТНЫМ ЗНАЙСЦІ ВЯЛІКАЕ

Некалькі гадоў таму ў “лясной” святыні адбыўся шлюб. ***“Вянчалася дзяўчына з астравецкай парафіі, у якой я калісьці быў маладзевым душпастырам,*** – узгадвае кс. Мікалай Ціхановіч, які ўдзяляў сакрамант. – ***Яна абрала гэтую капліцу, таму што хацела ўшанаваць памяць продкаў: сюды часта прыходзіла маліцца бабуля дзяўчыны. Мяне прыемна ўразіла, што выбар такога незвычайнага месца шлюбу не быў абумоўлены жаданнем зрабіць сенсацыю, але глыбокім асэнсаваннем запланаванай урачыстасці. Шчыра кажучы, гэты шлюб я перажыў у цеснай сувязі з сужэнцамі. Па-першае, адбываўся ён у маі, ламаючы распаўсюджаны забабон. Па-другое, малітоўнага настрою ўрачыстасці дадала сціпласць «лясной» святыні: простае аздабленне капліцы, што зрабілі маладыя, запаленыя свечкі, спеў моладзі і цэлебрацыя Імшы спіной да сабраных. Па-трэцяе, адчувалася, што для пары важны сам сакрамант, а не прыгожая ілюстрацыя. Усё гэта максімальна наблізіла цырымонію шлюбу да евангельскіх прынцыпаў”.*** Кс. Мікалай дадае, што шлюб у капліцы ў Дубку заўсёды будзе вылучацца сярод яго вялікай святарскай практыкі ўдзялення сакрамантаў.

Афіцыйна “лясная” святыня адкрывае дзверы раз на год. Аднак калі ў чалавека ёсць жаданне трапіць у Божы дом, на шляху да гэтага не можа быць аніякіх перашкод. ***“Хто плануе наведаць капліцу або, вандруючы па краіне, заўважыў цікавую забудову і хоча ў яе зазірнуць, можа лёгка гэта зрабіць,*** – адзначае кс. Павел. – ***Трэба патэлефанаваць да мяне або звярнуцца ў адну з тых трох хатак, што стаяць у Дубку. У вёсцы жыве мужчына, які заўсёды трымае пры сабе ключ ад святыні. Адкрыем для кожнага”.***

Маці Божая, схаваная ў гушчары лесу, чакае кожнага з нас: з рознымі просьбамі і ў розных патрэбах...



*Пробашч парафіі кс. Павел Калеснік*



*Урачыстасці ў Дубку пад традыцыйны акампанемент дажджу*

*Гісторыя іконы, якую католікі сёння называюць абразом Маці Божай Нястомнай Дапамогі (а ў праваслаўнай традыцыі вядомай як ікона Маці Божай Балеснай), сягае XII стагоддзя і ахутана таямніцай. Адны сцвярджаюць, што абраз паўстаў у Візантыі, іншыя – што ў манастыры Хіландар на святой гары Афон. У старым паданні гаворыцца, што абраз вёз на караблі ў Еўропу багаты купец, а падчас шторму выцягнуў яго з куфра і паказаў падарожнікам. Людзі адчайна маліліся перад абразом, гэта і выратавала іх ад марской катастрофы.*

*Пасля драматычнага падарожжа абраз аказаўся ў Рыме ў касцёле св. Мацвея, але пасля захопу Рыма французамі ён згубіўся. Праз больш за паўстагоддзя абраз знайшоў а. Міхал Марчы CSsR. У 1865 годзе папа Пій IX даверыў цудатворную выяву айцам рэдэмптарыстам, сказаўшы: “Зрабіце так, каб гэты абраз стаў вядомы ва ўсім свеце і каб яго любілі”.*

*Абраз Маці Божай Нястомнай Дапамогі захоўваецца ў шэрагу касцёлаў Гродзенскай дыяцэзіі. Сярод іх, напрыклад, у Карэлічах. Пробашч аднайменнай парафіі а. Юрый Саковіч OSPPE адзначае, што неаднаразова быў сведкам цудаў, здзейсненых праз заступніцтва Маці Божай Балеснай:* ***“Шмат людзей з рознымі просьбамі прыходзяць памаліцца перад цудадзейным абразом. Здаралася, маліліся аб дары патомства – неўзабаве бацькі гадавалі дзіця. Іншыя звярталіся, каб Багародзіца дапамагла выратаваць немаўля, што пры смерці, – і дзіця вярталася да жыцця насуперак прагнозам урачоў. Неаднаразова вернікі атрымлівалі аздараўленне ад хвароб, звязаных з расстройствам псіхікі – выходзілі з доўгіх дэпрэсій. Аналізуючы гэтыя здзяйсненні, мы заўважылі, што Маці Божая дае людзям новае жыццё: і ў фізічным, і ў духоўным сэнсе”.***

*Марыя, нягледзячы на тое, што Яе постаць на абразе самая вялікая, не з’яўляецца яго цэнтральным пунктам. Указальная далонь Маці, пераплеценая з далонямі Хрыста, які звяртаецца да Айца, вызначае графічны цэнтр іконы і з’яўляецца ключом да разумення яе галоўнага паслання. У той жа час, гэтыя элементы задаюць правільны кірунак медытацыі над іконай: запрашальны позірк Маці Божай не засяроджвае нашу ўвагу на сабе, але накіроўвае яе да Сына, які слухае і пастаянна выконвае збаўчую волю Айца. Менавіта таму Марыя, прадстаўленая тут, – гэта Адзігітрыя, Праваднiца, якая нястомна паказвае нам Дарогу да Айца. Гэтай Дарогай з’яўляецца Хрыстос, які сам пра сябе сказаў: “Я – дарога і праўда, і жыццё” (Ян 14, 6).*

*Ангеліна Марцішэўская і Кінга Красіцкая*

# ЯК НЕ ЗГУБІЦЬ МОЛАДЗЬ У КАСЦЁЛЕ?

***Большасць касцёльнай моладзі пасля школы "адвальваецца", знікае. Важна, каб у ваколіцах трыццаткі, пасля спробы цяжкасцей рэальных жыццёвых расчараванняў, маладыя людзі ведалі дарогу дадому, маглі вярнуцца. Якім жа павінен быць Касцёл-дом?***



АРЦЁМ ТКАЧУК

## СВЯТЫНЯ НЕ БУДЫНАК

Маёй генерацыі моладзі з Ліды-Фары пашанцавала на душпастыраў. Касцёл-будынак, сакраманты – гэта было заўсёды вельмі важным. Але мы раслі ў супольнасці! Лічылася нармальным заскочыць да сясцёр пасля школы на гарбату, падзяліцца, што заказаўся, пазычыць грошай, рыхтаваць дэкарацыі да ночы…

Толькі з гадамі разумееш, што ў нас была сям'я. Мы былі рэальна патрэбныя нашым сёстрам і святарам – не для галачкі ў справаздачах. На падсвядомым узроўні закладвалася, што Касцёл – гэта людзі, гэта супольнасць. На такім фоне святыня-цэнтрычны Касцёл выглядаў сухім і непрывабным.





## КАСЦЁЛ – ГЭТА ЦЯПЛО

У дастаткова суровым свеце чалавеку неабходны месцы святла. Як жа Касцёл зрабіць цёплым? Падаецца, што толькі шчырасць хрысціян здольна на гэта.

Мой першы душпастыр быў вядомы тым, што ўвесь час выцягваў нас, міністрантаў, на марожанае ці піражкі. Натуральна за нас плаціў. Аднойчы, калі святар стаяў на каленях, я ўбачыў, што ў яго падэшва пантофляў сцёртая да дзірак. Памятаю іх як сёння.

Я шмат бачыў такіх дзір. У свецкіх і духоўнікаў. Мяркую, Касцёл павінен быць месцам цяпла, нават нейкай адчайнасці, шчырага імкнення да Яго. Моладзь хутка раскусіць фальш, штучнае "абаграванне".

## ІДЭАЛЬНЫ ТАНДЭМ

У нашай парафіі запрасіць душпастыраў на дзень нараджэння было нормай. Па калядзе святары прыходзілі да моладзі апошнімі, каб даўжэй пасядзець. У летнікі мамы і таты прыводзілі і перадавалі нас у рукі сясцёр. Былі жарты, быў кантакт. Да сённяшняга дня святары і сёстры сябруюць з нашымі бацькамі. Гэта свае людзі, блізкія і родныя.

Бацькі і душпастыры былі і застаюцца аўтарытэтамі адно для аднаго – камандная праца. Некаторыя з нас пайшлі ў святары, гэтая сплеценасць толькі ўшчыльнілася. Праўдзівае духоўнае выхаванне, думаю, павінна стаяць на двух кітах: Касцёле і сям'і.



## ГАЛОЎНАЕ ПЫТАННЕ

"Ці ты любіш Мяне?" – мне падаецца, гэта краевугольнае пытанне хрысціянства. Менавіта з ім трэба заставіць школьнікаў, адпускаючы ва ўніверсітэты. Гэта не пра тое, ці стаць святаром, ці заснаваць сям'ю. Усе будзе пазней. З пытаннем "ці ты любіш Мяне?" не згубішся.

У свой час я паступаў у Польшчу. Ужо перавёўся на завочку з дзённага бюджэту. Кідаў усё ў любым Гродне і стартаваў у незнаёмы мне Познань. Было страшна. Была няўпэўненасць. Ля гарадзенскага лялечнага тэатра сябры сказалі мне тады адны з найважнейшых слоў у жыцці: "Памятай, незалежна ад выніку, Бог будзе любіць гэтаксама, нязменна". Гэта пра вялікую свабоду хрысціянства: Бог любіць нягледзячы ні на што. Нястрашна скампраметавацца, памыліцца, рызыкнуць. На Яго любоў гэта не ўплывае.

Дык вось, адпускаючы касцёльную моладзь з "дома", трэба паспець данесці дзве фундаментальныя рэчы: "Ён цябе любіць" і "ці ты любіш Яго?". Гэтага дастаткова, каб перайсці цёмныя даліны, у якія чалавек перыядычна трапляе ў вандроўцы жыцця. І яшчэ Касцёл-дом. Цёплая супольнасць, печка з патрэскваючымі дровамі і гарачая гарбата. Месца, дзе табе рады, дзе прытуляць, дзе Ён жыве. Такіх больш няма на гэтым свеце.





***Аднойчы мне разам з групай паломнікаў давялося пабываць у італьянскім горадзе Падуя. Мы ехалі, у першую чаргу, да мошчаў св. Антонія – вядомага каталіцкага прапаведніка, памочніка ў адшуканні згубленых рэчаў.***

*Па дарозе маю ўвагу прыцягнуў пэўны храм. На сэрцы з'явілася светлае пачуцце: вельмі захацелася туды трапіць. Была ўпэўненасць, што гэта менавіта той касцёл з мошчамі святога, куды мы і накіроўваемся. Але аўтобус праехаў міма і працягваў ехаць усё далей, далей… Я са смуткам падумала, што магчымасці пабываць у той святыні ў мяне ўжо не будзе.*

*Далей была доўгая і цікавая экскурсія па горадзе, наведванне сабора св. Антонія Падуанскага, шпацыр па каларытных вулачках, рынках… Пасля паломнкі атрымалі каля 3-ох гадзін вольнага часу.*

*Самастойна блукаючы ў незнаёмым горадзе, я трапіла… да таго самага касцёла, які бачыла, заязджаючы! Не магла паверыць сваім вачам! Кружыла вакол, не адважваючыся ўвайсці.*

*Ля ўваходу ў храм заўважыла белы камень з высечанай выявай манаха. Унутры, на шматлікіх абразах, таксама быў ён – мужчына невысокага росту (як пазней даведалася, 135 см). Нарэшце я падышла да шкляной труны, дзе знаходзілася цела гэтага манаха. Дакранулася – і забыла пра ўсё. Не хацелася адрываць сваю руку ад шкла: глыбокі супакой цалкам напоўніў мяне. Удалося знайсці месца, каб прысесці побач з мошчамі. Сядзела там так доўга, як толькі было магчыма. Ногі не хацелі нікуды болей ісці. Было адчуванне, быццам душа трапіла дадому. Аднак 3 гадзіны вольнага часу ўжо скончыліся, і я прымусіла сябе выйсці з касцёла…*

*Менавіта так я і даведалася пра санктуарый св. Леапольда Мандзіча – каталіцкага святара, манаха капуцына, вядомага спаведніка. Ён марыў быць місіянерам на Блізкім Усходзе, каб аднавіць адзінства паміж праваслаўнымі братамі, а таксама стаць добрым і міласэрным спаведнікам. Па розных прычынах, у тым ліку звязаных са станам здароўя, а. Леапольду ў поўнай меры ўдалося рэалізаваць толькі другую сваю мару.*

*Ён прысвяціў усяго сябе людзям, здзяйсняючы сакрамант споведзі па 10-12 гадзін у дзень. Быў даступны для патрабуючых ў любы час. Вернікі шукалі святара з надзеяй на бясконцую дабрыню Нябеснага Айца. Тыя, у каго ён быў спаведнікам, усхвалялі неверагоднае цярпенне манаха, непарушную далікатнасць, глыбокае разуменне, вялікае сэрца, чалавечнасць у слуханні. Аднак браты капуцыны часам вінавацілі яго за празмерную паблажлівасць, называлі "ўсёдаруючым".*

*Аднойчы а. Леапольд з болем сказаў: "Калі хто-небудзь становіцца перада мной на калені, хіба гэта не дастатковы доказ таго, што чалавек хоча атрымаць прабачэнне ад Бога?". Калі падчас споведзі хтосьці быў перапоўнены слязьмі або занепакоены сумненнямі, а. Леапольд звычайна казаў: "Будзь спакойны; пакладзі ўсё на мае плечы. Я паклапачуся пра гэта". Тлумачыў: "Я даю толькі невялікія пакаянні, таму што раблю ўсё астатняе самастойна". Уначы гадзінамі маліўся, каяўся за грахі іншых. Толькі тройчы за сваё жыццё адмовіў у адпушчэнні грахоў, і потым вельмі ў гэтым раскайваўся.*

*Падчас II Сусветнай вайны манастыр айцоў капуцынаў у Падуі быў грунтоўна разбураны. Уцалела толькі келля-канфесіянал, дзе спавядаў а. Леапольд. Гэта прадказваў сам манах за некалькі гадоў да сваёй смерці: "Гораду будзе нанесена шмат удараў… манастыр таксама моцна пацерпіць… але гэтая келля – не. Тут Пан Бог праявіў шмат міласэрнасці да чалавечых душ, і гэта павінна стаць помнікам Яго дабрыні". Слынны спаведнік адышоў у вечнасць 30 ліпеня 1942 года.*

***Сёлета прыпадае 130-ая гадавіна святарскіх пасвячэнняў св. Леапольда Мандзіча. Маем нагоду падзякаваць Богу за Яго намесніка, праз якога тысячы вернікаў спазналі міласэрнасць любячага Айца і працягваюць спазнаваць ужо праз заступніцтва святога ў Небе.***

*Марына Я., Астравец*

З КАТАЛІЦКІХ СМІ

CATHOLIC.BY

### *Будслаўскі фэст*

***Курыя Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі паведаміла, як пройдзе адпустовая ўрачыстасць у Нацыянальным санктуарыі Маці Божай у Будславе.***

*Запланаваны на 3–4 ліпеня традыцыйны фэст пераносіцца на пазнейшы час. Інфармацыя пра магчымасць яго правядзення будзе пададзена пазней.*

***1–2 ліпеня ў мясцовым касцёле адбудуцца парафіяльныя адпустовыя ўрачыстасці.***

*Праграма*
***1 ліпеня – 18.00;***
***2 ліпеня – 9.00, 12.00, 18.00.***

*Усе св. Імшы пройдуць на адкрытым паветры. Праход у прэзбітэрый і ў стары касцёл будзе закрыты для вернікаў. Для ўшанавання абраза Маці Божай прапануецца ўвайсці ў базіліку праз цэнтральны ўваход, па цэнтральнай наве падысці да прэзбітэрыя і выйсці праз левую наву.*

*Хто збіраецца ўдзельнічаць ва ўрачыстасцях, просьба памятаць аб неабходнасці захавання сацыяльнай дыстанцыі і выкарыстання ахоўных масак.*





### *Тракелі 2020*

***Курыя Гродзенскай дыяцэзіі прадставіла інфармацыю адносна адпустовых ўрачыстасцей у дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях.***

*Штогадовы фэст, які адбываецца па традыцыі ў ліпені, перанесены на пазнейшы час. Ён пройдзе, калі толькі дазволяць абставіны.*

***2 ліпеня ў мясцовым касцёле адбудзецца парафіяльная адпустовая ўрачыстасць.***

*Праграма*
***10.00 – св. Імша на палявым алтары;***
***13.00 – св. Імша на палявым алтары, якую ўзначаліць біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч;***
***19.00 – св. Імша на палявым алтары;***
***21.00 – Марыйны заклік*** *(просьба ўзяць з сабой свечкі).*

*Усе жадаючыя могуць прыняць удзел у адпустовай урачыстасці ў гонар Маці Божай Тракельскай. Кусташ санктуарыя кс. доктар Юрый Бяганскі ў гэты няпросты час запрашае таксама дыяцэзіян у індывідуальным парадку наведаць святыню, каб мець магчымасць памаліцца ля цудатворнага абраза.*



*З Богам праз штодзённасць*

# Распазнаванне: накірунак руху чалавека

***"Распазнаванне – гэта мастацтва шанавання дароў, якія Бог спасылае нам, і адкрыцця як мага лепшых спосабаў штодня адказваць узаемнасцю на Яго любоў", – піша Дэвід Лонсдэйл, аўтар некалькіх кніг па ігнацыянскай духоўнасці. Менавіта пачуццё ўдзячнасці Богу з'яўляецца найлепшай матывацыяй да распачацця (або вяртання на шлях) распазнавання. Яно патрабуе адвагі, высілку, а таксама пэўнай стрыманасці, таму што рашэнні не павінны прымацца адразу, на падставе імгненных пачуццяў – свой эмацыянальны водгук трэба ўсвядоміць і даследаваць. Спачатку разгледзім падрабязней тры крокі, агульныя для ўсіх правіл св. Ігнацыя.***

**Усведамленне** – брама да ўсяго распазнавання. Аднак увага да ўнутранага жыцця не даецца так лёгка, як хацелася б. Ці часта мы ўсур'ёз разглядаем стан душы? Ці знаходзім магчымасць спыніцца на працягу дня, каб усвядоміць, што адбываецца ўнутры?

Святы Дух жыве ў нас (параўн. 1 Кар 3, 16), як сцвердзіў яшчэ св. Павел. Але мы самі прабываем дзесьці звонку, углядаемся ў свет, безуважныя да дзеяння Бога ва ўласным сэрцы. Трэба прызнаць, успрыманне ўнутранага свету – больш складаная справа, чым успрыманне знешняга праз пачуцці цела. На гэта ўплываюць наступствы першароднага граху, хлусня злога духа, цяжкасці з дысцыплінаванасцю нашай увагі, якая схільна бязмэтна блукаць, рэагуючы на любы знешні стымул. Звыш таго, нават засяродзіўшыся, высвятляем, што ўнутры нас плыве надзвычай рухомы і багаты паток пачуццяў і думак, сярод якога цяжка дамагчыся выразнага ўспрымання якога-небудзь канкрэтнага руху, калі толькі ён не вылучаецца асаблівай інтэнсіўнасцю або працягласцю.

Часта кажуць, што сучасныя электронныя прылады негатыўна ўплываюць на здольнасць канцэнтрацыі, аднак яны толькі прапануюць новыя спосабы рэалізацыі вельмі старадаўняй тактыкі па займанні сябе нечым знешнім. Прычына ў тым, што паварот – ці нават разварот – да сябе азначае сустрэчу з уласнай абмежаванасцю, недасканаласцю, слабасцю, а гэта досыць некамфортная перспектыва, хоць і нагадваем сабе ўвесь час пра Божую міласэрнасць. Толькі тады, калі асабіста дасведчым, што ў нас у глыбіні "святло свеціць у цемры" (Ян 1, 5), і што быць "у сабе" – значыць перадусім сустрэцца з асабістай прысутнасцю, любоўю і аздараўляючай моцай нашага Збаўцы, супраціўленне ўсведамленню пачне слабнуць.

І гэта быў толькі першы крок. Яснае ўспрыманне дае неабходнае святло, каб ісці далей, каб падпарадкавацца кіраўніцтву Святога Духа. Цяпер важна зразумець: ці гэтыя рухі з'яўляюцца сапраўды духоўным досведам і ўплываюць на маё жыццё веры і імкненне выконваць Божую волю? Калі так, то неабходна пастарацца зразумець, ці ад Бога прыйшла тая радасць або сум, захопленасць або расчараванне, якія мы адчуваем? Менавіта тут рэкамендацыі св. Ігнацыя станучь адпаведнай дапамогай.

Якімі б складанымі ні былі папярэднія два крокі, працэс распазнавання не дасягнуў сваёй мэты, пакуль не прывёў да дзеяння. Зразумеўшы, што пэўны праект, занятак ці стан рэчаў аддаляюць ад Бога, трэба адкінуць іх. І наадварот, распазнаўшы Божае запрашэнне, прапанову, пакліканне, трэба іх прыняць і актыўна ажыццяўляць. Усе тры этапы сцісла звязаны між сабой: рашучасць дзеяння становіцца магчымай дзякуючы духоўнай чуйнасці і адпаведнай інтэрпрэтацыі натхненняў.

Звернемся цяпер да самых правіл распазнавання духаў. Заканчэннем мінулага артыкула быў тэкст "Пачатак і аснова". Лагічным наступствам разважання аб мэце чалавечага жыцця, становіцца пытанне: набліжаюся я да гэтай мэты ці рухаюся ў адваротным кірунку? Пытанне вельмі важнае, бо ад адказу на яго залежыць, наколькі карыснымі стануць для нас першыя два правілы св. Ігнацыя. Каб правільна распазнаць, які дух "працуе" ў сэрцы, трэба спачатку выявіць асноўны напрамак духоўнага жыцця. Добрай дапамогай тут можа стаць рахунак сумлення. Разважаючы тэкст правіл, звярніце ўвагу, што св. Ігнацый не гаворыць выхапіць момант "тут і цяпер", але паглядзець на сваё жыццё ў дынаміцы.

**Першае правіла.** Тым людзям, якія ідуць ад аднаго смяротнага граху да іншага, вораг звычайна паказвае фальшывыя ўцехі і тым самым прымушае ўяўляць пачуццёвыя радасці і задавальненні, каб мацней утрымліваць іх і глыбей укараніць у заганах і грахах. У гэтых жа асобах добры дух дзейнічае супрацьлеглым чынам: джаліць і грызе іх сумленне, дае пачуць разважлівы голас розуму.

**Другое правіла.** У тых, якія дбаюць аб ачышчэнні ад грахоў і імкнуцца да лепшага служэння Богу, нашаму Пану, добры і злы дух дзейнічаюць адваротным чынам, у параўнанні з першым правілам. Злому духу тады ўласціва дакучаць, засмучаць і ставіць перашкоды, прымушаючы душу непакоіцца з-за надуманых меркаванняў, каб толькі душа не рухалася наперад. А добраму духу ўласціва дадаваць адвагі і сілы, слёз, натхненняў і спакою, несці палёгку і прыбіраць перашкоды, каб душа ўсё больш узрастала ў добрым.

Варта шчыра спытаць сябе: мы сапраўды імкнёмся да ўзрастання ў хрысціянскім жыцці ці хутчэй "зразаем вуглы", стараючыся дагадзіць "і нашым, і вашым"? Рух ад благога да горшага можа адбывацца, па-першае, не ва ўсім жыцці цалкам, а толькі ў асобных сферах, а падругое, не толькі на працягу некалькіх гадоў ці месяцаў, але нават цягам аднаго дня, 1–2 гадзін. Таму так важна ўсведамляць, што адбываецца ў сэрцы, каб своечасова змяніць памылковы накірунак.

Адносна паняцця "духаў" а. Жуль Тоўнэр SJ, шматгадовы духоўны кіраўнік і рэкалекцыяніст, адзначае: "Несумненна, што для Ігнацыя гэтае слова адносілася да Святога Духа і да створаных духаў, як добрых, звычайна называных анёламі, так і злых, звычайна называных сатаной і дэманамі. Карыстаючыся правіламі Ігнацыя, мы можам і павінны надаваць тэрміну «злыя духі» больш шырокае значэнне, якое, акрамя сатаны і дэманаў, уключае ў сябе схільнасці нашай псіхікі, якія паходзяць з эгаізму і неўпарадкаванай пачуццёвасці, а таксама з уплываў іншых людзей або грамадства – настолькі, наколькі яны спрычыняюцца да зла ў нашым жыцці".

Калі слабее і губляецца жыццядайная сувязь з Богам чалавека, аб якім гаворыць першае правіла, у глыбіні яго сэрца нарастае туга. Злы дух заглушае гэты неспакой псеўдарацыянальнымі меркаваннямі: "Нічога такога не сталася, я неблагі чалавек. Хай сабе і ўкраў, але хто цяпер не крадзе?". Альбо так: "Калі з іншымі параўнаць, я ўвогуле святы", "Я клапачуся пра сям'ю, як магу, невялікая здрада іх не раніць, бо ніхто не даведаецца". Іншымі словамі, схільнасць да граху будзе падтрымлівацца злым духам, які пастараецца заглушыць сумненні, забавіць новымі забавамі, прапануе адкласці "сур'ёзныя рашэнні" на лепшы час.

Добры ж дух дасць пачуць дакоры сумлення, будзе непакоіць і вярэдзіць разважлівым пярэчаннем. Не атакуючы, не прыніжаючы, добры дух ставіць пытанні, якія трапляюць у самую кропку: "І што, такое жыццё робіць цябе шчаслівым?", "Хіба табе не прыкра глядзець у вочы тым, каго падманваеш?". Ён будзе нагадваць, што выбраны накірунак дрэнны і нават згубны, але гэта той выпадак, калі горкая праўда насамрэч лепш, чым салодкая хлусня.

Другое правіла распазнавання, напэўна, адлюстроўвае знаёмы ўсім досвед: калі імкнёмся ісці да Бога, адначасова з моцай збаўчай ласкі, то адчуваем іншыя ўнутраныя рухі, выкліканыя знутры або звонку, якія стрымліваюць нас. Намер злога духа не змяняецца, але дзейнічае цяпер супрацьлеглым чынам. Ён імітуе голас розуму, каб збудаваць перашкоды з надуманых аргументаў. "Як доўга ты збіраешся вытрымліваць такое жыццё? Можна ж быць, як усе, навошта так старацца?", "Ды хто ты такі, каб такое пачынаць, цябе засмяюць!". Злы дух звяртаецца з тым, што ў чалавеку знаходзіць жывы водгук у дадзены момант. Для кагосьці гэта будзе страх, для іншага пагроза нуды ці насмешак, абы толькі адвярнуць ад Бога.

Можна паглядзець і з іншай перспектывы: што мяне адводзіць ад жыцця, надзеі, свабоды, праўды? Ад цэлага мора з'яў, адносін, ведаў, выклікаў і творчасці? Ад таго, што насычае душу? Па падказцы злога духа мы можам згадзіцца на вельмі пустое і шэрае жыццё, на ўнутраную здрацвеласць, паглыбленасць у сваім маленькім свеце.

Св. Ігнацый прыводзіць такое параўнанне: злы дух "уваходзіць з грукатам" у добрую душу, стараючыся ўстрывожыць яе, тым часам як Божы пасланнік "дакранаецца да душы ціха, лёгка і лагодна, як кропля вады, што прасочваецца ў губку".

Самім фактам у звяртанні ўвагі на "ворага" Ігнацый аказвае нам вялікую паслугу. Не падазраючы, што сутыкнёмся з супраціўленнем у сваім імкненні да Пана, альбо ўсведамляючы гэтае супраціўленне толькі абстрактна (а то і зусім не ўлічваючы яго), духоўная барацьба, хутчэй за ўсё, стане для нас нечаканасцю. А тое, што навальваецца знянацку, цяжка пераадолець з прычыны поўнай непадрыхтаванасці; бясплённае змаганне знясільвае і вядзе да расчаравання. Несумненна, Божая любоў і ласка дзейнічаюць у нашым жыцці з большай моцай, чым любое супраціўленне ворага. Тым не менш, гаворыць св. Ігнацый, гэты злы вораг ёсць, і з яго схаванай дзейнасцю мы не размінёмся. Веданне і разуменне яго ўплываў стануць вялізнай дапамогай у прыняцці рашэння, якія накірунак выбраць, каб наблізіцца да Бога, а не адмаўляцца ад Яго любові.

*Тэрэса Клімовіч*

---

LIVE



## РЭГУЛЯРНЫЯ ТРАНСЛЯЦЫІ СВ. ІМШАЎ У КАСЦЁЛАХ БЕЛАРУСІ

**Ва ўмовах пандэміі, калі многія вернікі застаюцца дома, каб пазбегнуць рызыкі заражэння, у многіх касцёлах сталі магчымымі анлайн-трансляцыі св. Імшаў. Прапануем спіс парафій, якія запрашаюць далучыцца да супольнай малітвы праз інтэрнэт.**

### ГРОДЗЕНСКАЯ ДЫЯЦЭЗІЯ

***Парафія св. Францішка Ксаверыя ў Гродне (катэдра), кругласутачная трансляцыя***
у нядзелю і святы – 7.00, 9.00, 10.30, 12.00, 14.00, 15.00, 19.00, 21.00;
у будні – 8.00, 9.00, 12.00, 17.30, 19.00.

***Парафія Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе (Фара)***
у нядзелю – 11.00;
у святы – 18.30.

***Санктуарый Пана Езуса Журботнага ў Росі***
у нядзелю – 10.00; 13.00;
у аўторак, чацвер – 9.00;
у панядзелак, сераду, пятніцу, суботу – 18.00.

***Парафія свсв. апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша ў Воранаве (санктуарый Божай Міласэрнасці)***
у нядзелю – 10.30, 17.00;
у святы – 7.30, 19.00.

***Парафія Найсвяцейшай Тройцы ў Гервятах***
у нядзелю – 10.00, 12.00;
у будні – 20.00.

***Парафія св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне***
у нядзелю – 7.00, 10.00, 11.30, 14.00, 16.00.

***Грэка-каталіцкая парафія св. Язафата ў Лідзе***
у нядзелю – 11.00.

### МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЯ АРХІДЫЯЦЭЗІЯ

***Архікатэдральны касцёл Найсвяцейшага Імя Марыі ў Мінску, кругласутачная трансляцыя***
у нядзелю – 8.15, 10.00, 11.30, 13.00, 18.30;
у будні – 7.15, 8.00, 18.30.

***Парафія свсв. Сымона і Алены ў Мінску (чырвоны касцёл), кругласутачная трансляцыя***
у нядзелю – 8.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 21.00;
у будні – 7.00, 9.00, 12.00, 15.00, 17.00, 19.00.

***Нацыянальны санктуарый Маці Божай Будслаўскай, круглаcутачная трансляцыя***
у нядзелю – 7.00, 10.00, 12.00;
у суботу – 7.00, 12.00;
у будні – 7.00, 18.00.

***Парафія св. Міхала Арханёла ў Івянцы, круглаcутачная трансляцыя***
у нядзелю – 8.00, 11.00, 18.00;
у будні – 8.00, 18.00.

***Парафія св. Яна Евангеліста і св. Максімільяна Кольбэ ў Мінску (Кунцаўшчына / Масюкоўшчына)***
у нядзелю – 12.00;
у святы – 19.00.

**Парафія Маці Божай Ружанцовай у Мінску (Лошыца)**
у нядзелю – 9.00, 10.30, 19.00;
у аўторак, пятніцу – 19.00.

***Парафія св. Францішка Асізскага ў Мінску (Уручча)***
у нядзелю – 10.00, 18.00;
у будні (акрамя панядзелка) – 19.00.

***Парафія Найсвяцейшай Тройцы (св. Роха) у Мінску (Залатая Горка)***
у нядзелю – 11.00;
у святы – 18.30.

***Парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Станіслава ў Магілёве (катэдра)***
у нядзелю і святы – 11.00.

***Парафія св. Казіміра (касцёл св. Піо) у Маладзечне***
у нядзелю – 10.00.

***Парафія св. Ганны ў Дзяржынску***
у нядзелю – 9.00, 11.00, 19.00;
у сераду, пятніцу – 19.00;
у аўторак, чацвер, суботу – 10.00.

***Парафія Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў Лебедзеве***
у нядзелю – 9.00, 15.00.

### ПІНСКАЯ ДЫЯЦЭЗІЯ

***Парафія Нараджэння Маці Божай у Гомелі***
у нядзелю – 9.00, 12.00;
у панядзелак, сераду, пятніцу – 18.30;
у аўторак, чацвер, суботу – 8.00.

### ВІЦЕБСКАЯ ДЫЯЦЭЗІЯ

***Парафія св. Антонія Падуанскага ў Паставах, круглаcутачная трансляцыя***
у нядзелю – 8.00, 10.00, 12.00, 18.00;
у будні – 10.00, 18.00.

### САЛЕЗІЯНЕ КСЯНДЗА БОСКО Ў БЕЛАРУСІ

у нядзелю – па чарзе *(неабходна сачыць за аб'явамі)*:
***парафія св. Яна Хрысціцеля ў Мінску (Серабранка)*** – 10.00;
***парафія св. Міхала Арханёла ў Смаргоні*** – 10.00;
***парафія Найсвяцейшай Панны Марыі Успамогі Хрысціян у Бараўлянах*** – 11.30.

*Трансляцыі св. Імшаў адбываюцца праз youtube на ўласных акаўнтах парафій.*

***Паводле catholic.by***

НАВІНЫ



# СЯРЭБРАНЫ ЮБІЛЕЙ СВЯТАРСТВА ДАПАМОЖНАГА БІСКУПА ДЫЯЦЭЗІІ

Генеральны вікарый Гродзенскай дыяцэзіі кс. бп Юзаф Станеўскі адзначыў 25-годдзе прэзбітэрскага пасвячэння. З гэтай нагоды іерарх узначаліў урачыстую св. Імшу ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне, падчас якой дзякаваў усім, каго Пан Бог паставіў на яго жыццёвым шляху. Св. Імшу канцэлебравалі біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, а таксама дапаможныя біскупы Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі і Аляксандр Яшэўскі SDB.

Біскуп Юзаф прызнаўся, што інакш планаваў адсвяткаваць свой сярэбраны юбілей святарства. Ён хацеў бы ў гэты дзень быць акружаным дарагімі яму людзьмі з нашай краіны і замежжа, якіх сустрэў за ўсе гады служэння. Аднак, як заўважыў іерарх, "усе планы былі зменены з-за эпідэміі, якая абрынулася на свет, не выключыўшы і Беларусь": "Пан захацеў, каб я не налічваў шмат такіх людзей, але каб цаніў кожнага. Каб не аглядваўся на букеты кветак і прыгожыя пакункі падарункаў, а засяродзіўся на белай Гостыі і келіху – найпрыгажэйшым дары, які чалавек можа атрымаць ад Бога".

Св. Імшу падзякі біскуп узначаліў таксама ў сваёй роднай парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса і св. Язафата, мучаніка, у Заневічах (дэканат Вялікая Бераставіца).

Прэзбітэрскае пасвячэнне кс. бп Юзаф Станеўскі прыняў 17 чэрвеня 1995 года ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне з рук біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча.

## АДНЫМ РАДКОМ

• Кс. Віталій Венцкевіч цэлебраваў прыміцыйную св. Імшу ў парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне. • У Шчучыне выпускнікі атрымалі спецыяльнае благаслаўленне на далейшы жыццёвы шлях. • Біскуп Аляксандр Кашкевіч асвяціў у гродзенскім касцёле Маці Божай Анёльскай капліцу ў гонар Слугі Божага Мельхіёра Фардона. • Адпустовая ўрачыстасць упершыню адбылася ў гродзенскай парафіі бл. Мар'яны Бярнацкай. • А. Аляксей Юхневіч OFMConv цэлебраваў прыміцыйную св. Імшу ў Смаргоні. • Малітва аб спыненні пандэміі адбылася ў гродзенскай катэдры. • Грэка-каталікі з Гродна далучыліся да агульнакаталіцкага дня памяці бл. Мар'яны Бярнацкай. • Сярэбраны юбілей святарства адзначыў кс. канонік Юзаф Ганчыц у лідскай парафіі Святой Сям'і. • Пахавальная св. Імша кс. каноніка Тадэвуша Качана адбылася ў касцёле Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў Канвелішках (дэканат Радунь).

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## Каляндар падзей

***29 чэрвеня***

*Урачыстасць свсв. апосталаў Пятра і Паўла.*

***2 ліпеня***

***Першы чацвер месяца.***

*Молімся аб святарскіх, манаскіх і місійных пакліканнях.*

***3 ліпеня***

*Свята св. апостала Тамаша.*

***Першая пятніца месяца.***

*Узнагароджваем Найсвяцейшаму Сэрцу Пана Езуса за непрыняцце любові і дабрыні Бога.*

***4 ліпеня***

***Першая субота месяца.***

*Ушаноўваем Беззаганнае Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Ліпень***

*Аб развіцці пілігрымак і дыяцэзіяльных санктуарыяў. У інтэнцыі кусташаў санктуарыяў, арганізатараў пілігрымак і пілігрымаў.*

*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***

*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***

*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***

*Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!*

## Інфармацыя для абітурыентаў!

**Гродзенскі тэалагічны каледж імя св. Казіміра аб'яўляе набор студэнтаў на 2020/2021 навучальны год.**

Адной з галоўных мэт навучальнай установы з'яўляецца ўмацаванне веры, паглыбленне рэлігійных ведаў і падрыхтоўка спецыялістаў для рэлігійнай дзейнасці. Навучанне ў каледжы працягваецца 3 гады (з верасня па чэрвень).
Форма навучання – завочная. Заняткі праводзяцца ў 2-ую і 4-ую суботу і нядзелю месяца.
Пасля заканчэння каледжа выпускнікі могуць працягваць навучанне ў каталіцкіх ВНУ, атрымаць ступень магістра або доктара.

**Дакументы, неабходныя для паступлення:**

- заява (напісаная ўласнаручна);
- біяграфія (напісаная ўласнаручна);
- рэкамендацыйны ліст ад пробашча парафіі;
- копія атэстата аб агульнай сярэдняй адукацыі або іншыя дакументы аб адукацыі;
- копія пашпарта (с. 31–33);
- копіі пасведчанняў аб сакрамантах хросту і канфірмацыі;
- 3 фотаздымкі (3х4);
- медыцынская даведка;
- анкета (запаўняецца пры падачы дакументаў).

Перад падачай дакументаў абавязковы папярэдні запіс, які адбываецца па тэлефонах (8 029) 887-71-05, (8 0152) 75-33-08 або праз e-mail: kaledz.tealagiczny@gmail.com. Дакументы прымаюцца асабіста з 1 чэрвеня да 21 жніўня кожны аўторак з 10.00 да 12.00 у біскупскай курыі (г. Гродна, вул. К. Маркса, 4).

**Уступныя іспыты:**
- экзамен з катэхізіса і агульных ведаў пра Каталіцкі Касцёл; - кваліфікацыйная размова.

***Уступны іспыт адбудзецца 25 жніўня ў 11.00.***

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**30 чэрвеня 1994 г.** – кс. Станіслаў Петраш SchP, *проб. Крамяніца.*

# АДЫШЛІ ПА ЎЗНАГАРОДУ ДА ПАНА

## *Божа, прымі іх у сваё Валадарства!*



***9 чэрвеня ў Чанстахове (Польшча) адышоў у вечнасць а. Леон Вітэк OMI, які доўгі час служыў пробашчам парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Зарачанцы (Балі Касцёльнай) каля Гродна. Святару было 86 гадоў.***

А. Леон нарадзіўся 23 сакавіка 1934 года ў сям'і Станіслава і Саламеі Вітэкаў у Здунах. Прэзбітэрскае пасвячэнне прыняў 18 сакавіка 1962 года з рук арцыбіскупа Антонія Бараняка.

Служыў у шматлікіх парафіях у Польшчы. У 1995 годзе распачаў працу ў Беларусі. Да 2014 года выконваў абавязкі пробашча парафіі Зарачанка (дэканат Сапоцкін). Таксама шмат гадоў спавядаў клерыкаў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.

Святар застаўся ў памяці вернікаў як айцец з добрым сэрцам і нязгаснай усмешкай на твары...

***19 чэрвеня ў Доме міласэрнасці ў Каменцы адышоў у вечнасць кс. канонік Тадэвуш Качан, былы пробашч парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў Канвелішках (дэканат Радунь). Святар пражыў няпоўныя 83 гады.***

Кс. Тадэвуш нарадзіўся 5 жніўня 1937 года ў сям'і Станіслава і Зоф'і Качаноў у Вялікім Бараве каля Іўя. Прэзбітэрскае пасвячэнне ўдзяліў яму 6 чэрвеня 1981 года біскуп Валенты Вайцік.

Святарскую паслугу распачаў у Польшчы. У 1990 годзе прыехаў у Беларусь. Спярша дапамагаў пробашчу ў Іўі. Затым абслугоўваў парафіі Нецеч, Беліца, Мінойты (дэканат Радунь) і Трабы (дэканат Іўе). У 2004–2018 гадах служыў пробашчам парафіі Канвелішкі.

Як адзначаў пры жыцці, з дапамогай Бога і добрых людзей ён дасягнуў таго, аб чым марыў з ранніх гадоў.



***Дзякуем Богу за дар гэтых асоб, якія вучылі нас сапраўды хрысціянскаму жыццю! Дзякуем Богу за іх прыгожае святарства, якім нас узбагацілі!***

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды юбілею святарства жадаем моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў паслузе на карысць Богу і людзям, штодзённай радасці, душэўнага супакою і аптымізму. Няхай Пан Бог благаслаўляе Вас кожны дзень.

*Рэдакцыя “Слова Жыцця”*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды 25-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем бязмежнай радасці з плёну душпастырскай паслугі. Няхай здароўе будзе моцным, у сэрцы заўсёды госціць супакой і дабрыня, а энергія спадарожнічае на працягу доўгіх гадоў жыцця.

*Любячая мама з сям’ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Гавецкаму**

з нагоды імянін жадаем апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Святога Духа, нязгаснага запалу ў нясенні людзям Добрай Навіны, а таксама шчодрага плёну на Божай ніве.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Іўя*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды дня нараджэння і імянін шчыра жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці і людской зычлівасці, нястомнай апекі святога заступніка і патрэбных Божых ласкаў. Дзякуем за адкрытае сэрца, мудрыя казанні і парады, клопат пра нас і святыню.

*Працаўнікі гродзенскай катэдры*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Залогу**

з нагоды імянін жадаем добрага здароўя, шчодрых Божых ласкаў, радасці, аптымізму. Няхай сэрца палае любоўю да Пана і бліжняга, а Маці Божая атуляе плашчом сваёй дабрыні і нястомна Вамі апекуецца.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Жырмунаў*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю**

з нагоды імянін жадаем здароўя, шчасця, спакойных дзён, радасці ад выконваемай паслугі. Няхай Хрыстос прытуляе Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца, удзяляе благаслаўленне і свае шчодрыя ласкі, а Маці Божая абараняе ад няшчасцяў.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Жалудка*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рушніцкаму**

з нагоды імянін жадаем нястомнай апекі святога заступніка, моцнай веры, падтрымкі ад Бога і людзей, а таксама рэалізацыі ўсіх планаў у будаванні касцёла. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас за веру, любоў і пашану да людзей, а Панна Марыя няхай вядзе найпрыгажэйшым шляхам да святасці. Дзякуем за шчырую малітву і дабрыню.

*Ружанцовае кола МБ Анёльскай з Каробчыцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Этэлю**

з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, сіл, цярплівасці, усіх дароў Святога Духа, апекі Маці Божай. Няхай Вам заўсёды спадарожнічае людская зычлівасць, Бог благаслаўляе святарскі шлях, а Анёл-ахоўнік суправаджае ў кожнай справе.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з парафіі Гродна-Вішнявец*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Раманоўскаму**

з нагоды імянін жадаем няспыннай апекі святога заступніка, падтрымкі ад Бога і людзей, здзяйснення ўсіх намераў, моцнага здароўя, цярплівасці і нястомнага запалу ў душпастырскай паслузе. Няхай добры Бог благаслаўляе кожны дзень, Святы Дух надзяляе ўсімі дарамі, а Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае сваёй апекай і выпрошвае неабходныя ласкі, патрэбныя для кіравання парафіяй. Няхай Бог узнагародзіць Вас за веру, любоў і павагу да людзей, добрасумленную працу, шчырую малітву, клопат пра святыню і катэхізацыю парафіян.

*Вернікі з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Граўжышках*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Калесніку**

з нагоды імянін жадаем Божага благаслаўлення. Няхай кожны дзень жыцця будзе напоўнены здароўем, шчасцем і радасцю, Святы Дух асвячае і вядзе па Божых сцежках, а Найсвяцейшая Маці нястомна апекуецца.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Жодзішкаў*

**Дарагому Ксяндзу Паўлу Эйсманту**

з нагоды 7-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў і імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, сілы – нястомнымі, а радасць – штодзённай. Няхай Цябе заўсёды акружаюць прамяні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Найсвяцейшай Панны Марыі, Езус Хрыстус валадарыць у Тваім сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а святы заступнік будзе побач.

*Любячыя бацькі і брат з сям’ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Астукевічу**

з нагоды імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, аптымізму, надзеі, здароўя, душэўнага супакою, моцы і нястомнай апекі Маці Божай.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Індуры*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Радзюку**

з нагоды імянін жадаем усіх Божых ласкаў, радасці на кожны дзень, спакою ў сэрцы, лагоднай пакоры і веры, што пераносіць горы. Няхай Святы Дух падтрымлівае Вас сваімі дарамі ў абвяшчэнні людзям Добрай Навіны, а Езус Хрыстус заўсёды будзе прыкладам бязмежнай любові і безумоўнага прабачэння.

*Вернікі з парафі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Паўлу Урбану, Паўлу Звяжынскаму, Паўлу Гардзейчыку і Паўлу Раманоўскаму**

з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, аптымізму, нязгаснага запалу. Няхай Пан Бог Вас заўсёды благаслаўляе, а Найсвяцейшая Маці і святы заступнік нястомна апекуюцца.

*Вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважанаму Айцу Пятру Марцінцу**

з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, стойкасці ў душпастырскай паслузе, апекі Маці Божай, людской зычлівасці і павагі. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а праца прыносіць радасць і задавальненне.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Азёраў*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу**

з нагоды імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, шмат сіл у нялёгкай святарскай паслузе, апекі Маці Божай, дароў Святога Духа і дапамогі святога заступніка ў кожную хвіліну жыцця.

*Р. Карнеловіч і Кола Жывога Ружанца св. Юзафа з Воўпы*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Урбану**

з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, нястомнай апекі Маці Божай і святога Заступніка, мноства дароў Святога Духа, а таксама добрых і зычлівых людзей побач. Няхай Бог благаслаўляе Вас кожны дзень.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Парэчча*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шанчуку**

з нагоды імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху, які вызначыў Вам усемагутны Бог, а таксама людской дабрыні.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Гожы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Зноску**

з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, плённай душпастырскай паслугі, душэўнага супакою і зычлівых людзей побач. Няхай Езус адорвае шчодрымі ласкамі, Анёл-ахоўнік дадае сіл, Маці Божая ахінае сваёй апекай, а Святы Дух вядзе праз усё жыццё.

*Бацькі і сястра з сям’ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Лазоўскаму**

з нагоды імянін жадаем моцы Святога Духа на кожны дзень жыцця і душпастырскай паслугі, надзейнай апекі святога заступніка і ўсіх Божых ласкаў. Няхай кожны дар, які Вы атрымліваеце ад Пана, будзе моцнай падтрымкай на жыццёвым шляху.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Струбніцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму**

з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, аптымізму, надзеі, сіл для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай кожны дзень душпастырскай паслугі будзе напоўнены радасцю і спакоем, а праца на карысць Богу і людзям прыносіць шчодры плён. Мы ўдзячны Вам за адданую службу ў нашай парафіі, абвяшчэнне Божага слова, цудоўны прыклад веры і мудрасці, адкрытае сэрца і нястомны клопат пра кожнага з нас. Няхай Святы Дух умацоўвае Вас сваімі дарамі, падтрымлівае ў абвяшчэнні свету Добрай Навіны, адорвае стойкасцю і мудрасцю, Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды апекуецца, а Анёл-ахоўнік дапамагае ў цяжкія хвіліны жыцця.

*Касцёльны камітэт, Ружанцовыя колы і вернікі з парафіі св. Максімільяна Кольбэ і св. Станіслава, біскупа, у Каробчыцах*

**Паважанаму Ксяндзу Пятру Кубелю**

з нагоды імянін жадаем Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Маці і святога заступніка, шчодрых дароў Святога Духа, моцнага здароўя, штодзённай радасці, сардэчных і шчырых людзей, а таксама благаслаўлёнага плёну ў душпастырскай паслузе.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Валдацішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Савіцкаму**

з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, патрэбных сіл для штодзённай святарскай паслугі, спакою ў сэрцы і ўсмешкі на твары. Няхай міласэрны Пан благаслаўляе кожны дзень, а Найсвяцейшая Маці ахінае плашчом сваёй апекі. Дзякуем за зычлівасць, малітву і за тое, што прыязджаеце да нас.

*Вернікі з капліцы ў Вінцуках*

**Паважанаму Ксяндзу Пятру Кубелю**

з нагоды імянін і дня нараджэння складаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай здароўе будзе моцным, творчы запал – бязмежным, а радасць ад плёну працы – нястомнай. Няхай Вас заўсёды асвячаюць прамяні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Панны Марыі. Езус няхай валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а святы заступнік нястомна падтрымлівае.

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і вернікі з Крупава*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Пузыну, Яну Варанецкаму і Паўлу Паўлюкевічу**

з нагоды імянін складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, мудрасці, цярплівасці, спакою, Божай ласкі і апекі святых заступнікаў. Няхай агеньчык аптымізму ніколі не пагасне ў сэрцы, а кожны дзень будзе асвечаны любоўю, міласэрнасцю, верай і надзеяй.

*Вернікі з парафіі св. Міхала Арханёла ў Ашмянах*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Шанчуку**

з нагоды імянін складаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай: шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай і Анёла-ахоўніка, стойкасці на святарскім шляху, які прызначыў для Вас усемагутны Бог, а таксама людской дабрыні. Нізка кляняемся з удзячнасцю за абвяшчэнне Божага слова, ахвярную працу, цярплівасць, дабрыню і вялікае сэрца.

*Вернікі з парафіі Гожа*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды імянін складаем цёплыя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Няхай усемагутны Бог і Панна Марыя заўсёды маюць Вас у сваёй апецы, а Святы Дух натхняе на добрыя і годныя справы. Няхай святы заступнік моцна трымае Вас за руку і дапамагае ў складаных жыццёвых сітуацыях. Шчасці Божа!

*Былыя вернікі з парафіі св. Юрыя ў Варнянах і капліцы ў Вароне*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Скубу**

з нагоды дня нараджэння і імянін жадаем моцнага здароўя, сіл і радасці на ўсё жыццё. Няхай Бог благаслаўляе кожны дзень, а агонь любові і дабрыні, які гарыць у Вашым сэрцы, ніколі не пагасне. Жадаем спакою і зычлівых людзей побач, а таксама рэалізацыі ўсіх планаў і намераў.

*Вернікі з парафіі Божага Цела ў Дварцы*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога заступніка. Няхай усё жыццё будзе напоўнена святлом і любоўю, Збаўца вядзе цудоўным святарскім шляхам, а побач будуць толькі зычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*Вернікі з парафіі св. Станіслава Косткі і Ружанцовыя колы з Ваўкавыска*

**Паважанаму Ксяндзу Пятру Вішнеўскаму**

з нагоды імянін жадаем усіх Божых ласкаў і толькі радасных хвілін. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай адданай святарскай паслугі, Езус заўсёды будзе найлепшым Сябрам, а Найсвяцейшая Панна Марыя прытуляе Вас да свайго сэрца.

*Парафіяне з Шылавічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблонскаму**

перасылаю словы ўдзячнасці за клопат і апеку падчас побыту ў бальніцы. Ад усяго сэрца дзякую за тое, што Вы робіце кожны дзень для хворых і церпячых. Няхай сілы ніколі не заканчваюцца! Няхай Пан Бог благаслаўляе на чарговыя гады і дазволіць рэалізаваць усе планы і намеры.

*Саламея з капліцы св. Фаўстыны ў в. Субачы*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Яновічу**

з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці ад святарскага служэння, зычлівых людзей побач. Няхай Пан Бог благаслаўляе кожны дзень, а Найсвяцейшая Маці нястомна апекуецца Вамі.

*Кола Жывога Ружанца МБ Нястомнай Дапамогі з Воўпы*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Яновічу**

з нагоды дня нараджэння жадаем шчодрых Божых ласкаў і ўсіх дароў Святога Духа. Няхай кожны дзень будзе напоўнены цеплынёй, радасцю і надзеяй, вера толькі ўзмацняецца, а ўсё, што Вы запланавалі, рэалізуецца з дапамогай Бога і добрых людзей.

*Удзячныя парафіяне*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Этэлю**

з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, сіл, радасці, добразычлівых людзей побач і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Маці Божая няспынна Вамі апекуецца і ахоўвае ў розных жыццёвых сітуацыях, а святы заступнік чувае кожны дзень.

*Парафіяльны камітэт і вернікі з касцёла Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Скубу**

з нагоды дня нараджэння і імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай усемагутны Бог і Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды трымаюць Вас у сваёй апецы, Святы Дух натхняе на добрыя і годныя справы, а Анёл-ахоўнік верна Вам служыць. Жадаем моцнага здароўя, штодзённай радасці, людской добразычлівасці, а таксама Божага благаслаўлення ў кожную хвіліну жыцця.

*Вернікі з парафіі свсв. Анёлаў-ахоўнікаў у Раготне*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Яновічу**

з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл для далейшай паслугі, Божай апекі ў рэалізацыі душпастырскіх планаў. Няхай Святы Дух дапамагае Вам у працы, і яна прыносіць шчодры плён.

*Апостальства “Маргарытка” з Воўпы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Беланосу**

з нагоды імянін і 21-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень душпастырскай паслугі, добрага здароўя, нязгаснага запалу, моцнай веры і непахіснай надзеі. Няхай Ваша сэрца перапаўняе радасць, побач заўсёды будуць зычлівыя людзі, а святарскі шлях будзе асвечаны Святым Духам.

*Удзячныя парафіяне*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Гавецкаму**

з нагоды імянін жадаем здароўя, вытрымкі, радасці, добразычлівых людзей, моцы Святога Духа і апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай святло Хрыста будзе надзейным праваднікам на дарозе жыцця. Дзякуем за чуласць, сардэчнасць, падтрымку і за тое, што заўсёды моліцеся за нас.

*Легіён Марыі, апостальства “Маргарытка” з касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Яновічу**

з нагоды дня нараджэння жадаем здароўя, вытрымкі, душэўнага супакою, аптымізму, неабходных сіл для рэалізацыі планаў і намераў, добрых людзей побач. Няхай будуць з Вамі мудрасць і розум, умеласць і рада, мужнасць, набожнасць і боязь Божая.

*Легіён Марыі, апостальства “Маргарытка” з касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Урбану**

з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, радасці, усмешкі. Няхай вера становіцца ўсё больш шчырай, а абвяшчаемае Слова ўсё глыбей трапляе ў сэрцы вернікаў. Няхай Пан Езус спадарожнічае Вам на кожным кроку і абараняе ад зла.

*Вернікі з парафіі МБ Нястомнай Дапамогі ў Парэччы*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Раманоўскаму**

з нагоды імянін жадаем добрага здароўя, шчасця і радасці. Няхай найвышэйшы Бог адорыць Вас сваімі ласкамі, Найсвяцейшая Маці мае ў сваёй апецы і дапамагае заўсёды і ўсюды, святы заступнік спадарожнічае на шляху да святасці, а кожны дзень паслугі Богу і людзям прыносіць радасць і задавальненне.

*Ружанцовыя колы, Апостальства дапамогі чысцовым душам і парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку**

ў сувязі са смерцю бацькі перасылаем выразы спачування і жалю.
Няхай душа памерлага адпачывае ў супакоі.

*Парафіяне з касцёлаў св. Андрэя Баболі ў Казловічах і Святой Сям’і ў Верцялішках*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2784; тыраж 4916; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная